№ 40. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты: на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы — 1 м. 20 ф., на 1 мес. — 40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь
выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністраціі і экспэдыціі: М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:
на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі — 25 фэніг.; дробные абвесткі — па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 40 (132). Год II. Вільня, 18 мая 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## 17 мая.

**Заходні тэатр:**

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Сільнай англіцкай контратакай мы прымушэны былі на раніцы пакінуць здабытые зноў ваколіцы вёскі Рэ.

Сільные атакі англічан на поўначы ад Скарп адбіты с цяжкімі стратамі у ворагоў.

На палудзенным заходзі ад Ріанкур англіцкіе наступленьня нічога не дайшлі.

На гэтым фронці мы ў маі ўзялі дагэтуль ў палон 2.300 англічан.

*Фронт нямецкаго Насьледніка*: Пры Вогсэён і на ўсходзі ад Ля Фо мы неспадзеванай напасьцю пасунулі нашу лінію на некольні сот мэтроў ўпярод. Апрыч крывавых страт, ворагі утрацілі 248 душ палоннымі і некольні кулемётаў.

Пры Брэ мы так сама крыху адціснулі ворагоў назад і ўзялі палонных.

Ад пачатку мая мы на гэтым фронці ўзялі ў палон 2.700 душ.

**Усходні тэатр:**

Без ніякіх прыпадкоў.

*Македонскі фронт*: Пасьля доўгай артылерыйскай падгатоўкі на поўначы і паўночным заходзі ад Манастыра пачаліся сільные францускіе атакі, каторые ўсюды з вялікімі стратамі адкінуты назад нямецкімі і боўгарскімі вайскамі штыкамі і ў контратаках.

---

ВЕНА. 16.V. Італьянцы на Ізонцо сягоньня пачалі ізноў свае атакі на ўсім фронці. Яны нідзе не дайшлі ўдачы і мелі цяжкіе страты.

ПЕЦЯРБУРГ. П. Т. А. даносіць:

На заседаньні ў начы міністэр заграгічных спраў заявіў тымчасоваму ураду аб сваей пастанові зусім выйсьці з міністэрства. Прычына выхаду—нязгодлівасць паглядоў Мілюкова с паглядамі тымчасоваго ураду на справу перастройкі габінэту.

Члены тымчасоваго ураду займаліся пасьля пытаньнем, ці ня возьме на сябе кіраўніцтва заграгічнымі справамі міністэр-прэзыдэнт? Але кн. Львов становўча адмовіўся ад гэтаго, кажучы, што ня лічыць сябе здольным занімаць гэтае мейсцо і лепей затрымае ў сваіх руках міністэрство ўнутрэных спраў. Тады большая часць членоў ураду заявіла, што кіраўніцтво заграгічнымі спрэвамі павінно быць аддадзено міністру фінансоў, Тэрэшчэнко.

Міністэр судоў, Керэнскій, назначэн міністрам арміі і флоту.

ЛЮГАНО. На нарадзі салдацкіх дэпутатоў с фронту Мілюков сказаў, што апублікаваньне зробленых быўшым царскім урадам умоў с саюзьнікамі — немагчымо, бо гэта вызвало-бы непрыязнь у саюзьнікоў да Расеі, выкрыло-бы ваенные сэкрэты і давялобы канец вайны да катастрофы.

Скобелев высказаў думку, што вайна можэ быць закончэна на моцы угоды між расейскай і нямецкай дэмократыяй. Керэнскій (цяперашні ваенны міністэр. Рэд.) заявіў, што мо' недалёк той час, калі Расея не здалее пасланць свайму войску на фронт даволі стравы і снарадоў. Калі армія ня будзе цярпліва перэнасіць сваей долі, і расейскі народ выкажэ сябе стадам вырваўшыхся на волю рабоў, а не народам людзей, сьвядомых сваей павіннасьці, — дык нельга абмінуць катастрофы, і бацькаўшчына згіне.

ШТОКГОЛЬМ. «День» друкуе с прамовы Мілюкова словы, прапушчэные П.Т.А. Пасьля заявы, што ешчэ патрэбно гэроічнае напружэньне сіл, каб зьнішчыць ворагоў, Мілюков сказаў: „Але чы ж мы ешчэ здольны да гэткіх высілкоў?“ Ён асьвяціў унутрэнае палажэньне арміі і заявіў, што сперша думалі, што рэвалюція створыць гэткі сьвяты гэроізм, каторы зацьміць усе даўнейшые ваенные ўчынкі расейскаго народу. „Панове, мы павінны сумленна прызнацца, што гэта не збылося. Наша ваенная сіла аслаблена і ідзе да развалу. Армія перэжывае туюж хваробу, як і народ: раздваеньне, полікрацію і недастачу павагі. Бацькаўшчына стаіць на краю пагібелі“.

ВАРШАВА. Адвакат Ян Короды́скі, карыстаўшыйся незаконна сваім становішчэм міліцыйнаго камісара, налажыў на сябе рукі, калі яго хацелі арэштаваць за яго праступкі.

---

## Канцлер і Рэйхстаг—за мір на моцы угоды з Расеей.

На заседаньні Рэйхстагу 15 мая зусім ясна выявілося, што як канцлер, так і ўвесь Рэйхстаг стаіць за такі мір з Расеей, каторы даў-бы магчымасць вярнуць даўную дружбу між абодвымі суседнімі народамі. «Калі Расея хочэ вярнуць трывалы стан згодліваго жыцьця з намі, — сказаў імперскі канцлер, — тады само сабой разумеецца, што мы, маючы гэткае самае жаданьне, не зьнішчожым асноў трывалай будучыны, ня зробім немагчымым развіцьце яе, дамагаючыся таго, чаго нельга было-бы пагадзіць з воляй і жаданьнямі народаў і што ў расейскім народзі стварыло-бы грунт дзеля новых варожых адносін».

Уважаючы на агульнае палажэньне Расеі ў гэты момэнт і на ўсё узрастаючае жаданьне міра ў народных массах, можна спадзевацца, што дзень 15 мая адзначывае сабой новы крок да міра.

---

## Мэты вайны.

Дня 15 мая ўсе ждалі з вялікай нецярплівасьцю і з вялікімі надзеямі: ў гэты дзень імперскі канцлер павінен быў зрабіць сваю заяву аб ваенных мэтах Нямеччыны. Аднак, надзеі споўніліся толькі часьцю: канцлер заявіў, што ён ня можэ яшчэ аткрыта гаварыць аб сваіх ваенных мэтах, і высказаў адно толькі агульны пагляд на ваеннае палажэньне.

Але і с тых агульных слоў, якіе мы чулі ад канцлера, прыраўнаваўшы іх да заявы галавы нямецкіх соцыал-дэмократоў, Шэйдэманна, можна ўжо цяпер зрабіць некаторые вывады. Мы можэм зусім сьмела сказаць, што канцлер лічыць немагчымым, каб пасьля вайны Нямеччына вярнулася да сваіх старых граніц. Як і на якіх асновах мае адбыцца перамена граніц Нямецкай дзержавы, гэтаго канцлер не сказаў: ён гаварыў толькі, што Нямеччына ня хочэ зьнішчэньня жыцьцёвых сіл Расеі. За тое Шэйдэманн, цьвёрда выступаючы проці захвату чужых зямель, падаў праект пашырэньня граніц Нямеччыны без аннэксіі: ён гаварыў аб «перэстаноўцы граніцных каменьнёў на моцы ўзаемнай угоды» між ваюючымі дзержавамі, адзначываючы, што гэта — «не аннэксія, а толькі ўпарадкаваньне граніц».

Углецаючыся на тое, што найвялікшые абшары заваёваны нямецкім аружжэм ад Расеі, мы можэм зрабіць яшчэ адзін вывад. Прынімаючы пад увагу, што справа этнографічна-польскіх зямель ужо развязана актам 5 лістапада 1916 году, паводлуг катораго Польшчы даецца незалежнасць, і што Расея той акт прызнала за правамочны, — гутарка між Нямеччынай і Расеяй можэ ісьці цяпер толькі аб Курляндіі, Літве і часьці Беларусі, якіе ўходзяць у межы упраўленьня Обэр Ост. І тут адкрываецца шырокі прастор для ўселякіх дагадак. Чы ўвесь гэты абшар Нямеччына хочэ далучыць да сябе, чы толькі часць яго — напрыклад, Курляндію і Літву? Чы край гэты мае станавіць асобную дзержаўную організацію — самабытную, або ў агульна-нямецкім гасударственным саюзі, чы мо' войдзе у склад суседніх Прусаў? Чы ўрэшці часць яго можэ быць аддадзена назад Расеі і на якіх умовах? На ўсе гэтые пытаньня мы ня толькі не маем адказу, але і намёку на развязку іх. Адказ на іх дасць далейшы ход вайны.

*Г. Б.*

---

## У Вільні і ваколіцах.

✕ Пачынаючы ад 20 мая, ў местовых крамах ня будуць больш выдаваць на хлебовые карты мукі, гароху і т. п.

Порція хлеба на дзень будзе станавіць 100 грамоў на душу. Больш хлеба выдаваць ня будуць і за вышэйшую цану. За тое за рэшту адрэзкоў будуць даваць у народных страўнях зупу.

✕ **Выхад з места.** Stadthauptmann напамінае, што перэхадзіць цераз граніцу між віленскім местовым і сельскім паветамі нават і пехатой можна толькі атрымаўшы пазваленьне на пісьме.

✕ **Местовая апека над пакінутымі дамамі.** У сваім часі мы пісалі аб розных ненормальных праявах у рабоці местовай камісіі дзеля апекі над пакінутымі дамамі, каторая ўся складалася адно толькі с камянічнікоў-палякоў. Цяпер у організаціі камісіі зроблена сур'ёзная перамена: побач з 9 даўнейшымі апекунамі ў камісію запрошэны 9 новых асоб: 5 жыдоў, 3 літвіны і 1 беларус, у тым ліку — 6 кватэрантоў.

Трэба думаць, што цяпер будзе звернено больш увагі на інтэрэсы ўсяго насяленьня Вільні — бяз розніцы націі і веры, што местовая камісія, як і павінно быць, будзе мець характэр організаціі грамадзянскай і здалее

Друкавана у друкарні М. Кухты. Выдавецтво «Гоман». Редактар Язэп Салавей.